Фірыновіч, А.Э. Месца крыніцы ў гістарыяграфічным дыскурсе аб паўстанні 1863-1864 гг. / А.Э. Фірыновіч // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 8 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. - Минск: БГУ, 2013. - С. 203-214.

**А. Э. Фірыновіч**

# МЕСЦА КРЫНІЦЫ Ў ГІСТАРЫЯГРАФІЧНЫМ ДЫСКУРСЕ АБ ПАЎСТАННІ 1863—1864 гг.

Праведзены аналіз месца і ролі крыніцы ў фарміраванні канцэптуальных асноў славянскай гістарыяграфіі паўстання 1863—1864 гг., вылучаны ўмоўныя перыяды гэтага працэсу, вызначаны індывідуальныя рысы кожнага з этапаў і фактары, дэтэрмінуючыя спецыфіку уведзенай у навуковы абарот тэматычнай базы крыніц. Аўтар акцэнтуе ўвагу на суб'ектыўных і аб'ектыўных прычынах дадзенага працэсу. Прадэманстравана ступень залежнасці праблемнага поля даследаванняў ад выкарыстанага круга крыніц. Усё гэта дазволіла акрэсліць узровень вывучанасці дакументальных помнікаў па гісторыі паўстання 1863—1864 гг. і прыйсці да высновы, што і ў сучаснай гістарыяграфіі праблемы дамінуючае становішча займаюць з некаторымі варыяцыямі дзве дыяметральна супрацьлеглыя канцэпцыі: а) «польскага дваранска-клерыкальнага бунту»; б) «беларускага нацыянальна-вызваленчага руху».

The analysis of source position and role in the formation of conceptual foundations of slavic historiography of the revolt 1863—1864 is conducted in the article, conventional periods of this process are marked out, individual characteristics of each stage and factors that determine specifics of subject source base introduced to the scientific turnover are identified. The author stresses the subjective and objective motives of this process. The degree of dependence of problematic study field from the used sources is demonstrated. This allowed to outline the informative level of the documental memorials in the history of the 1863—1864 revolt and to make the conclusion that in the modern historiography problems the dominant positions with some variations are occupied by two diametrical opposite concepts: a) «polish nobility — clerical riot»; b) «Belarusian national liberation movement».

*Ключевые слова*: источник, восстание 1863—1864 гг., концепция, славянская историография, белорусские архивохранилища.

*Keywords*: source, revolt of 1863—1864, concept, Slavic historiography, Belarusian archival depositories.

Вядомая старажытнагрэцкая мудрасць сцвярджае, што «ў спрэчцы нараджаецца ісціна». Сапраўды, падчас вядзення спрэчкі ў відавочным або ўтоеным выглядзе праяўляецца некаторая супярэчнасць, якая дазваляе сфармуляваць праблему і пагладзець на яе з розных бакоў. А вось знайсці праўдзівае тлумачэнне ці рашэнне гэтай праблемы магчыма толькі на

**Фиринович Елена Эдуардовна** — научный сотрудник сектора историографии и методов исторического исследования Института истории НАН Беларуси, кандидат исторических наук. E-mail: firinowicz@rambler.ru

базе важкіх аргументаў. Кожная навуковая сфера валодае сваёй «аргументацыйнай зброяй». Для гісторыі — гэта у першую чаргу гістарычная крыніца.

Калі зазірнуць у мінулае Беларусі, то спрэчных момантаў там багата. Сярод іншых навуковых праблем лідыруючае месца займае тэма паўстання 1863—1864 гг. 150 гадоў ёй удавалася існаваць на мяжы дзвюх навукова-даследчых крайнасцяў: ад поўнага ігнаравання падзеі да вызначэння яе як апорнага пункту ў нацыятворчых працэсах беларускага народа. Заканамерна ўзнікае пытанне — «А ў чым тут справа?» Паспрабуем знайсці адказ на першаснай стадыі і прасочым фарміраванне базы крыніц у гісторыі вывучэння рэалій 1863—1864 гг.

Першапачатковае асвятленне паўстанне 1863—1864 гг. атрымала ў творах сучаснікаў падзей: польскіх грамадска-палітычных дзеячоў (А. Гілера, В. Пшыбароўскага, Г. Гедэрбаўма, Б. Ліманоўскага і інш.) [80; 81; 83; 87] і расійскіх дарэвалюцыйных даследчыкаў (В. Ратча, П. Бранцава, А. Сідарава, А. Парахаўшчыкова, А. Мілавідава і інш.) [11; 48; 56; 60]. Комплекс крыніц, на якія абапіраюцца гэтыя публікацыі, прадстаўлены наступнымі відамі: эмпірычныя матэрыялы (рукапісныя і вусныя сведчанні відавочцаў); тагачасная перыёдыка («Колокол», «Русская Старина», «Свобода», «Земля и Воля», «Журнал военных действий», «Wiadomości z pola bitwy», «Dziennik powszechny» і інш.); справаводчая дакументацыя ведамасных інстанцый. Як бачна, відавае напаўненне дакументальнага корпусу практычна аднолькавае, але ўнутраная сутнасць яго кардынальна супрацьлеглая, што абумоўлена паходжаннем дакументаў. Галоўны масіў крыніц польскамоўных прац базіраваўся на справаводчых матэрыялах і грамадска-палітычнай публіцыстыцы паўстанцкага кіраўніцтва. У рускамоўных пераважала арганізацыйна-распарадчая дакументацыя расійскай адміністрацыі.

Для прыкладу звернемся да прац першых аўтарытэтаў даследавання гісторыі падзей 1863—1864 гг. А. Гілера і В. Ратча. Так, А. Гілер у дадатках да «Гісторыі паўстання польскага народу ў 1861—1864 гг.» апублікаваў вялікую колькасць арыгінальных крыніц. У першым томе ён цалкам падаў змест «Лістоў з-пад шыбеніцы», у другім змясціў 26 дакументаў наступнага характару: адрасы ад імя польскага паўстанцкага ўраду, насельніцтва, Андрэя Замойскага, папы Пія IX да цара Аляксандра II, а таксама дэкрэты, пастановы, інструкцыі і адозвы паўстанцкага кіраўніцтва да народу, урадаў Еўропы і інш. [81, с. 340—370]. У публікацыі В. Ратча пераважна сустракаюцца цытаты і спасылкі на цыркуляры, распараджэнні, інструкцыі М. Мураўёва за май 1863 — люты 1864 гг.; рапарты, справаздачы і ведамасці членаў дзяржаўных органаў расійскай адміністрацыі [60]. Хаця ў яго асабістым фондзе ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы (Санкт-Пецярбург) прысутнічаюць копіі, літаграфіі, асобныя нумары, вытрымкі польскай нелегальнай перыёдыкі, публіцыстыкі. Нават Г. Кісялёў, які з беларускіх навукоўцаў найбольш поўна прапрацаваў рукапісны збор В. Ратча, здзіўляўся наяўнасці надзвычай «багатай калекцыі дакументаў т. зв. Літоўскага правінцыяльнага камітэта» [43, с. 128].

Такая аднабаковая выбарка дакументальнага комплексу даволі тыповая для выданняў другой паловы XIX — пачатку XX ст. Гэта выклікана ступенню даступнасці крыніц для тагачасных даследчыкаў і іх мэтавымі ўстаноўкамі, якія канцэнтраваліся на ідэйным супрацьстаянні ў апісанні гісторыі паўстання 1863—1864 гг. Яркую карціну гэтай барацьбы на навуковым узроўні дэманструе выказванне А. Мілавідава: «...вековая борьба русской и польской народности в Северо-Западном крае переходит преимущественно на культурную почву и важнейшим ее орудием становятся школа, книга, наука. В частности, к решению о правах на обладание краем призывается также наука историческая, и люди враждебных лагерей призывают к ответу вещественные и письменные памятники старины...» [13, с. XIII]. Таму назапашванне базы крыніц адбывалася не толькі праз друкаванне асобных дакументаў у дадатках даследаванняў або непасрэдна ў самім тэксце (як цытата), але і праз публікацыі зборнікаў дакументаў. Як адзначана ў прадмове да першай часткі «Виленского временника», яго з'яўленне выклікана «исполнившимся 50-летием этого события (паўстанне 1863—1864 гг. —

*А .Ф.*), а также появлением по этому поводу в России и за границею на польском языке многих изданий, тенденциозно освещающих это событие...» [13, с. XXIV], якія імкнуліся даказаць «политические, национальные и религиозные права Польши на Литву» [13, с. XXIV]. Абвінавачваючы сваіх польскіх апанентаў у антынавуковасці і абмежаванні кола матэрыялаў афіцыйнымі і дыпламатычнымі польскамоўнымі і лацінскамоўнымі дакументамі, расійскія гісторыкі пайшлі такім жа шляхам і імкнуліся паказаць «древность православия и русской народности в Западном Крае» [13, с. XXVIII].

З 387 дакументаў, апублікаваных у першай частцы «Виленского временника», асноўная маса прадстаўлена справаздачнай дакументацыяй (адносінамі, паведамленнямі, дакладнымі запіскамі, данясеннямі, рапартамі) прадстаўнікоў усіх узроўняў расійскага ўрада. Тэматычна яны закранаюць пытанні, звязаныя з удзелам у падзеях 1863—1864 гг. дваранства, духавенства, раскрываюць мерапрыемствы дзяржаўнай палітыкі па задушэнню разнастайных праяў антыўрадавага характару. Сабраныя матэрыялы паходзілі з палітычнага аддзялення канцыляры Віленскага генерал-губернатарства, частка з іх захоўвалася ў асабістым архіве М. Мураўёва, у Віленскай публічнай бібліятэцы. У другой частцы «Виленского временника» выдадзены рапарты Штаба Віленскай ваеннай акругі, Віленскага палявога аўдытарыяту з архіва Мураўёўскага музея аб ваенных дзеяннях за студзень 1863 — снежань 1864 г. (усяго 281 дакумент). Паводле перакананняў складальніка, «в истории этого восстания военные действия, можно сказать, занимают центральное место. Остальные же проявления революционного движения: манифестации, сопротивления законным властям, изуверства над мирными жителями жандармов-вешателей, и т. п. лишь — акссесуары главной исторической драмы, кулисы которой закрылись, как только прекратились военные действия...» [14, с. XV].

Аднабаковае прадстаўніцтва дакументальнага комплексу значна паўплывала на спектр аналізаваных праблем і інтэрпрэтацыю паўстання 1863—1864 гг. Польскі бок імкнуўся паказаць гераізм сваіх суайчыннікаў у «нацыянальна-вызваленчай барацьбе супраць Расійскай імперыі», стварыць храналогію падзей у Каралеўстве Польскім [81; 87], зафіксаваць у памяці нашчадкаў імёны ўдзельнікаў [78; 80], абгрунтаваць палітычныя пазіцыі сваіх партый [83; 87]. Расійскія гісторыкі ў якасці галоўнага аб'екту даследавання абралі сістэму кіравання, а ў якасці мэты ставілася апраўданне яе рэакцыйнасці ў дачыненні да «Паўночна-Заходняга Краю» [8; 60; 64]. Адлюстраванне паўстання як «бунту польскай шляхты і ксяндзоў за неабмежаваныя правы часоў Рэчы Паспалітай» акрэсліла аналіз яго сацыяльнага складу прадстаўнікамі толькі гэтых дзвюх груп [2; 11]. Цэнтральнае месца ў рускамоўных выданнях занялі вобраз «сапраўднага змагара» за «русское дело» М. Мураўёва і яго ўдалы палітычны курс супраць «паланізацыі» [19; 20; 48; 56].

У 1920-я гг. уносяцца пэўныя карэктывы ў базу выкарыстоўваемых крыніц. Гэта прадыктавана некаторымі зменамі ў гістарыяграфічнай традыцыі даследавання паўстання. Прадстаўнікі беларускай гістарычнай навукі (Я. Віткоўскі, У. Ігнатоўскі, Ф. Турук, І. Цвікевіч і інш.) адышлі ад вывучэння гісторыі падзей 1863—1864 гг. у агульнаімперскім маштабе, а звярнуліся непасрэдна да тэрыторыі Беларусі [15; 35; 70; 73]. Як прафесійныя гісторыкі, у аснову сваіх даследаванняў яны ставілі першакрыніцы. Згодна з бібліяграфічнымі спісамі тагачасных публікацый, аўтары актыўна выкарыстоўвалі дакументы з былога ЦДАКР (цяпер Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі) фонда 109 «Его Императорского Величества собственной канцелярии. Отделение III. О беспорядках в Царстве Польском и западных губерниях». Частку гэтых матэрыялаў супрацоўнікі Польскага сектара Інбелкульта апублікавалі ў зборніку дакументаў, сама назва якога падкрэслівала навуковыя прыярытэты 1920-х гг. (рэгіяналістыка): «1863 г. на Міншчыне» [1]. Яго камплектацыя грунтавалася на даследчых задачах і асноўны масіў крыніц прадстаўлены службовай перапіскай — рапартамі жандарскага штаб-афіцэра Мінскай губерні, ваенных начальнікаў і начальнікаў жандарскіх праўленняў Пінскага, Ігуменскага, Навагрудскага і іншых паветаў, данясеннямі Мінскага губер-

натара. Уведзены ў навуковы зварот дакументальны комплекс па свайму паходжанню і разнастайнасці відаў не з'яўляўся наватарскім. Аднак яго ўнікальнасць заключалася ў сістэматызацыі крыніц па тэрытарыяльнаму прынцыпу, навізне іх інфармацыйнага патэнцыялу, які датычыўся непасрэдна беларускай тэрыторыі. Калекцыю копій выяўленых матэрыялаў Я. Віткоўскі стварыў у архіве Інбелкульта. На яе аснове базіраваліся ўсе пазнейшыя працы беларускіх вучоных, выдадзеныя ў 1930—1940-х гг. На жаль, падчас Вялікай Айчыннай вайны дакументы архіва згубіліся.

Нягледзячы на агульны фактычна-дакументальны фундамент, аналітычныя заключэнні гісторыкаў па праблеме атрымоўваліся розныя. Адны з іх (У. Ігнатоўскі, Я. Віткоўскі, І. Цвікевіч), падкрэсліўшы наяўнасць рэгіянальных асаблівасцей падзей 1863—1864 гг., у рамках марксісцкай метадалогіі надалі ім характар «класавай барацьбы супраць паноў і нацыянальна-вызваленчай супраць царызму» [15; 36], а ў правадыры «беларускай аграрна-саслоўнай рэвалюцыі» залічылі К. Каліноўскага [73]. Іншыя (С. Агурскі) працягвалі канстатаваць «шляхецка-клерыкальныя шавіністычныя асновы» рэалій 1860-х гг. [3]. Прычына такіх яўных фальсіфікатаў, як адзначае сучасны беларускі даследчык Дз. Караў, у тым, што «политический элемент в этих работах доминировал над целями научного исследования. Очень слабо и фрагментарно использовались источники» [54, с. 7]. Падобную ацэнку працам 1920-х гг. даў В. Шалькевіч: «Характерная черта этих работ — сравнительно узкая источниковедческая база, недостаточная методологическая зрелость. Поэтому 20-е годы важны для нас не своими достижениями, а своими исканиями, постановкой многих проблем...» [75, с. 35].

У 30-я гг. ХХ ст. новыя дакументы гісторыкамі фактычна не ўжываліся. Пераважна прапрацоўваліся апублікаваныя яшчэ ў канцы ХІХ — пачатку ХХ ст. матэрыялы («Виленский временник», «Сборник распоряжений Михаила Николаевича Муравьева по усмирению польского мятежа в Северо-Западной губернии 1863—1864» ). Некаторыя даследчыкі спрабавалі пашырыць кола крыніц і адысці ад традыцыйна выкарыстоўваемых архіваў — ЦДАКР і ЦДГА (цяпер Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу). Так, С. Драніцын звярнуўся да дакументальнага комплексу былых Кіеўскага і Ленінградскага (зараз Санкт-Пецярбургскага) гістарычных архіваў [25], А. Станкевіч — да асабістых архіваў (Р. Керанскага, інжынера Л. Дубейкаўскага, ксяндза Ул. Талочкі, сваякоў А. Гурыновіча і інш.) [69]. Аднак у рамках пануючага ў савецкай навуцы матэрыялістычнага падыходу, сутнасць якога заключалася ў дэманстрацыі «барацьбы класаў», галоўнай сюжэтнай лініяй 1930-х гг. стала вызначэнне сацыяльнай базы паўстання 1863—1864 гг. Але і ў гэтым напрамку працягвала весціся дыскусія. Адны з даследчыкаў настойвалі на сялянскім характары паўстання [25], другія — на дробнабуржуазным [15], трэція — на памешчыцкім [47].

1940-ы год адзначыўся выхадам у свет 2-га тома зборніка з серыі матэрыялаў па гісторыі Беларусі, падрыхтоўка якога пачалася яшчэ ў канцы 1920-х гг. Аднак хваля рэпрэсій другой паловы 1930-х гг. значна замарудзіла выпуск адзначанага тому, бо вымагала карэннай змены навуковага падыходу да выбаркі дакументаў. Аб выдавецкіх спазненнях з прычыны канцэптуальнай перапрацоўкі ў камплектацыі крыніц згадваюць і самі складальнікі ў прадмове да выдання. Сёмы раздзел зборніка ўключае 93 дакументы і мае назву «Беларусь у часы паўстання 1863 г.». Практычнае значэнне адзначанага аспекту аўтары бачылі ў тым, што «ён упершыню дае дакументальнае асвятленне пытання аб падзеях паўстання на тэрыторыі Беларусі і аб адносінах да яго розных сацыяльных класаў і класавых групіровак беларускага народа» [23, с. 17]. У гэтай заяве складальнікі акрэслілі даследчыя задачы публікацыі і яе канцэпцыю. Раздзел быў сфарміраваны з аднастайнай катэгорыі крыніц — дзелавой перапіскі прадстаўнікоў ніжэйшага ўзроўню апарату кіравання Расійскай імперыі (данясенні, рапарты, паведамленні шэфу жандараў Даўгарукаву). У асноўным тэматычная выбарка складаецца з матэрыялаў аб адносінах і дачыненні сялян да паўстання 1863—1864 гг. (39 адзінак захавання) і аб урадавай палітыцы (37 адзінак). Складальнікі зборніка імкнуліся надаць пад-

зеям 1863—1864 гг. класавы характар і паказаць «барацьбу беларускіх сялян супраць польскіх паноў» [23].

Другая сусветная вайна ўнесла пэўныя карэктывы ў распрацоўку тэматычнай базы крыніц. Неабходнасць дэманстрацыі гераічных прыкладаў для грамадзян БССР актуалізавала зварот і да постаці К. Каліноўскага. Вузкая накіраванасць даследаванняў (біяграфістыка) непазбежна вымагала ўжывання новага корпусу крыніц. Навацыяй другой паловы 1940 — 1950-х гг. стала выкарыстанне біяграфічных дакументаў аб паходжанні рода Каліноўскіх (метрык, пасведчанняў аб шлюбах, хадайніцтваў на зямельныя выкупныя і дароўныя аперацыі), універсітэцкіх і судова-следчых спраў К. Каліноўскага, эпісталярных сведчанняў яго сяброў і паплечнікаў. Вядучымі спецыялістамі ў гэтай вобласці сталі У. Перцаў, І. Лушчыцкі, А. Смірноў, С. Драздоў. Аднак праблемным месцам усіх гэтых публікацый з'яўлялася цытаванне «Мужыцкай праўды» ў перакладзе на тагачасную беларускую ці рускую мовы, без спасылак на месца захоўвання і ступень аўтэнтычнасці дакумента. Аўтарамі адназначна быў створаны вобраз Каліноўскага як «абаронцы сялянскіх інтарэсаў». Тым часам ацэнкі яго палітычных пазіцый разышліся ад упэўненнага сцвярджэння аб імкненнях стварэння «нацыянальнай незалежнасці Беларусі» [53, с. 140] да выказвання ідэі «федэратыўнага саюзу з Расіяй» [24; 46; 67].

Тэндэнцыя залежнасці выкарыстання дакументаў ад прадмета даследавання развівалася і далей. Так, у канцы 1950-х гг. у савецкай гістарыяграфіі актыўна распрацоўвалася тэма рэвалюцыйных сувязяў народаў Расіі і Польшчы. Навізна базы крыніц гэтых выданняў заключалася ў сістэмным вывучэнні публіцыстычных твораў лідараў расійскіх і еўрапейскіх рэвалюцыйных рухаў, партыйных і дыпламатычных дакументаў, шматлікай перыёдыкі. Гістарычныя рэаліі 1863—1864 гг. пераламляліся праз прызму злучанага аналізу праяў рускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху і паўстання, іх узаемазвязанасці і ўзаемадапаўняльнасці [27; 44].

1960-я гг. у развіцці крыніцазнаўчай платформы праблематыкі сталі асабліва прадуктыўнымі. У сувязі са святкаваннем стагоддзя паўстання 1863—1864 гг. ім зацікавіліся не толькі гісторыкі, але і літаратуразнаўцы, філосафы, філолагі. Міждысцыплінарны падыход значна ўзбагаціў кола крыніц па разнавіднасці, паходжанні і тэматыцы. У засваенні тэматычнага дакументальнага корпусу назіралася пераймальнасць выкарыстання тых відаў матэрыялаў, якія былі ўведзены ў навуковы зварот у 40—50-я гг. XX ст. У комплексе архіўных дакументаў пераважалі пракламацыі, лістоўкі, адозвы, рукапісы ўспамінаў палітычных лідараў, у апублікаваных — поўныя зборы твораў расійскіх ідэолагаў грамадскіх рухаў (Герцэна, Чарнышэўскага і інш.). Верыфікацыяй і практычнай апрабацыяй публіцыстыкі па гісторыі паўстання 1863—1864 гг. інтэнсіўна займаліся аўтарскія калектывы зборнікаў артыкулаў пад рэдакцыяй М. Нечкінай («Революционная ситуация в России 1859—1861 гг.») і пад рэдакцыяй В. Каралюка («Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х гг.») [9; 10; 45]. У рамках гэтага даследчага напрамку былі створаны і асобныя працы [26; 71]. Уся ўвага засяроджвалася на раскрыцці ўнутрыпалітычнай сітуацыі 1860-х гг. у Польшчы, Літве і Беларусі, устанаўлення ступені пераймальнасці ідэй расійскай рэвалюцыйнай дэмакратыі кіраўнікамі паўстання, іх адносін, узроўню арганізацыі дапамогі першых другім. Галоўная выснова заключалася ў рэвалюцыйна-дэмакратычным характары падзей 1863—1864 гг., якія быццам бы бралі пачатак з народных рухаў Еўропы і мелі за мэту агульнаімперскую рэвалюцыю. Такая відавая спецыфіка дакументальных крыніц абумовіла аднабаковасць асвятлення праблемы і не дазволіла паглыбіцца ў яе сутнасць.

У 1960-я гг. сумеснымі намаганнямі польскіх і савецкіх гісторыкаў складзены 5 зборнікаў дакументаў з цэнтральных архіваў СССР, Польшчы, Літоўскай ССР і БССР. Гэта быў міжнародны археаграфічны праект паводле дамовы аб навуковым супрацоўніцтве паміж АН СССР і Польскай АН, падпісанай 28 сакавіка 1957 г. Выданнем серыі зборнікаў «Паўстанне 1863 г.

Матэрыялы і дакументы» займалася спецыяльна створаная камісія, у склад якой увайшлі супрацоўнікі Інстытута славяназнаўства АН СССР В. Каралюк і І. Мілер, намеснік кіраўніка Галоўнага архіўнага праўлення МУС СССР Л. Якаўлеў. Польскі бок прадстаўлялі супрацоўнікі Інстытута гісторыі Польскай АН С. Кеневіч і Э. Халіч і адзін з кіраўнікоў Галоўнай дырэкцыі дзяржаўных архіваў Польшчы К. Канарскі. Крытэрыі і прынцыпы падбору матэрыялаў указваліся ў інфармацыйным лісце камісіі, дзе строга дэкларавалася, што «в центре внимания должны стать важнейшие проблемы развития прогрессивных идей, революционных связей польского народа и народов СССР, революционной борьбы масс, а не тот круг вопросов, который искуственно выпячивался дворянско-буржуазной националистической историографией Польши и России» [77, с. 276].

У выніку так і атрымалася. Першая публікацыя сфарміравана з дакументаў, якія адносяцца да ўнутрыпалітычнай сітуацыі на тэрыторыі Літвы і Беларусі ў 1861—1862 гг. [61]; другая прысвечана руска-польскім сувязям канца 50-х — пачатку 60-х гг. XIX ст. У ёй найбольш поўна прадстаўлена агітацыйна-публіцыстычная літаратура рэвалюцыйных арганізацый [62]. Перапіска наменікаў Каралеўства Польскага склала змест трэцяга зборніка. Яго фундаментальнае значэнне самі аўтары акрэслілі як базу «для осмысления и оценки политики царизма по отношению к Польше, охваченной революцией» [52, с. XXII]. Чацвёрты зборнік закрануў грамадска-палітычныя рухі адпаведнага перыяду ва Украіне [51]. Пяты непасрэдна датычыўся паўстання 1863—1864 гг. у Беларусі і Літве [16]. Сюды ж можна далучыць публікацыі мемуарных нататак удзельнікаў падзей 1863—1864 гг. [55]. Даследчыкі правялі грунтоўную пошукавую і археаграфічную працу. Апошняй надавалася вялікая ўвага, бо нават была распрацавана Г. Кісялёвым (кіраўнік адной з груп складальнікаў зборніка) «Памятка по археографической обработке документов серии сборников «Восстание 1863 г.» [77, с. 279—288]. Станоўчым момантам з'явілася публікацыя дакументаў усемагчымых выяўленых тыпаў і відаў, рознага паходжання, адміністрацыйнага ўзроўню і тэрытарыяльнай прыналежнасці. Яны друкаваліся на мове арыгінала з абавязковым перакладам на рускую. Разам з тым, парадаксальна выглядае друкаванне «Мужыцкай праўды» толькі ў адаптацыйным перакладзе на рускую мову. Незразумелым з'яўляецца і метадалагічны падыход, які выкарыстаны ў некаторых зборніках да выбаркі дакументаў. У выданні «Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии» падзеям 1863—1864 гг. непасрэдна на беларускай тэрыторыі прысвечана 108 дакументаў. З іх 13 датычыцца былой Віцебскай губерні, 14 — Магілёўскай, 20 — часткі Віленскай, 26 — Мінскай, 35 — Гродзенскай. У агульным аб'ёме яны саступаюць матэрыялам, што раскрываюць гісторыю паўстання на літоўскіх землях — 115 дакументаў. Аднак у параўнанні з асобнымі губернямі адчуваецца вялікая розніца. Так, на Ковенскую губерню адведзена 55 адзінак, Аўгустоўскую — 30, частку Віленскай — 30. На нераўнамернасць асвятлення падзей і праблему адбору дакументаў звярталі ўвагу даследчыкі яшчэ ў 1960-я гг. Адзін з рэцэнзентаў серыі публікацый (М. Улашчык) зазначаў, што «событиям в Украине, где восстание было выражено слабее, посвящено 2 тома, в то время как центру восстания — Литве — один том» [77, с. 273].

Навуковыя казусы ўзнікалі і ў высновах гісторыкаў. Іх ацэнкі не адпавядалі інфармацыі апублікаваных крыніц, што выклікала неабходнасць карэкцыі наяўных канцэпцый і тэндэнцый. Тыповым стала пазбяганне многімі аўтарамі аналітычных заключэнняў наконт самых спрэчных пытанняў (сацыяльнага і нацыянальнага) у гісторыі падзей 1863—1864 гг. Таму фундаментальных прац на гэтым этапе створана не было, акрамя даследавання А. Смірнова [66]. Дакументальная база яго публікацыі ўражвае. Гісторык увёў у навуковы зварот матэрыялы неапрацаваных фондаў ужо вядомых архіваў, асабліва з былых ЦДВГА (цяпер Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў у Маскве) і ДПБ (цяпер Расійская Нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу) — фонды дэпартамента генеральнага штаба, яго акадэміі, аўдытарскага дэпартаменту, начальнікаў карных калонаў і атрадаў па кожнай губерні, асабістыя фонды В. Ратча і П. Цугалоўскага (член Варшаўскай следчай камісіі). Насы-

чанасць фактамі гэтай працы ўнікальная па свайму характару, але аўтарскія высновы зроблены ў рамках агульнапрынятага метадалагічнага падыходу: паўстанне 1863—1864 гг. у Літве і Беларусі непарыўна звязвалася з рэвалюцыйнай барацьбой народаў Польшчы і Расіі супраць прыгонніцтва і самадзяржаўя, аснову якога складалі «простыя людзі» [66, с. 298].

Тым не менш, 1960-я гг. сталі своеасаблівай мяжой у распрацоўцы праблемы. Менавіта ў гэты перыяд, як адзначаюць сучасныя гісторыкі, «...состоялось начало поворота к научному исследованию этих проблем (паўстання 1863—1864 гг. — *А. Ф.*). Наконец, исторические реконструкции начали опираться на достаточно широкий репрезентативный круг исторических источников» [54, с. 10—11]. Аднак марксісцкая метадалогія абумоўлівала канцэптуальны бок гістарыяграфічнай спадчыны вывучэння паўстання 1863—1864 гг. у беларуска-літоўскіх губернях. Надзвычай праўдападобную карціну тагачаснай гістарычнай навукі апісаў А. Мальдзіс у адной з прадмоў да паўторнага выдання ў 2009 г. працы Г. Кісялёва «Сейбіты вечнага»: «Памятаецца, што напачатку 1963 г. у Мінску прайшлі сціплыя юбілейныя сходы і навуковыя пасяджэнні. Атмасфера на іх была напружаная: каб не дай бог, нехта сказаў лішняе. А што магло быць лішняе, крамольнае? Характарыстыка паўстання не як сацыяльна-мужыцкага, а як нацыянальна-вызваленчага...» [42, с. 6]. Пра сціплыя святкаванні 100-годдзя «супроцьмаскоўскага паўстаньня К. Каліноўскага» і заідэалагізаванасць тэматычнай савецкай гістарыяграфіі згадвае таксама эмігранцкая прэса 1964 г. У газеце «Беларус» адзначалася: «...у Менску і Маскве гадамі пішуцца і выдаюцца цэлыя кнігі, прысьвечаныя Каліноўскаму, у якіх партыйныя прапагандысты намагаюцца <...> прытушыць і схаваць ад народу ўсю ягоную нянавісць да няволі маскоўскай» [30, с. 2].

У 1970—80-я гг. у корпус крыніц аб падзеях 1863—1864 гг. былі ўключаны разнастайныя дакументы ўліковага і вопіснага характару: алфавіты судовага аддзелу аўдытарыяту Віленскай ваеннай акругі, Віленскай следчай камісіі [6], канфірмацыйныя матэрыялы аўдытарыяцкага дэпартамента Ваеннага Міністэрства [28]. Упершыню грунтоўныя статыстычныя падлікі па гэтаму комплексу правялі ў сваіх даследаваннях С. Байкова (Самбук) і В. Зайцаў. На думку навукоўцаў, аб’ектыўнасць выбраных крыніц заключалася ў мэце іх складання, а менавіта — для службовага карыстання, дзе фальсіфікацыя не была выгаднай, бо заблытвала б саміх жа службоўцаў. У той жа час адзначана непаўната даных некаторых спісаў. Абапіраючыся на лічбы, С. Байкова прыйшла да высновы, што «наиболее активной силой восстания 1863 г. на территории Белоруссии следует считать демократические слои города и деревни независимо от их сословия...» [6, с. 252]. Заключэнні В. Зайцава ёй не супярэчылі.

Сучасная беларуская гістарыяграфія аб падзеях 1863—1864 гг. знаходзіцца ў стадыі развіцця, а стан яе дакументальнага комплексу характарызуецца шэрагам якасных змяненняў. Па-першае, гісторыкі сталі больш абапірацца на першакрыніцы, корпус якіх значна пашырыўся дакументамі з беларускіх архіваў — Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (НГАБ у Мінску) і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродна НГАБГ). Публікацыі адрозніваюцца комплексным выкарыстаннем дакументаў рознага паходжання (афіцыйнага і апазіцыйнага), месца складання (унутранага і знешняга), адміністрацыйнага ўзроўню (губерні, павета, воласці), рознай сістэмы справаводства (ваеннай, дыпламатычнай, судова-следчай), галоснасці (сакрэтнай і несакрэтнай), што паўплывала на разгляд асноватворных аспектаў (сацыяльнага, рэлігійнага, узроставага, прафесійнага) праблемы з улікам спецыфікі беларуска-літоўскага рэгіёну [4; 17; 22; 34; 40; 72]. Па-другое, структура крыніц па спосабу фіксацыі дапоўнілася графічна-выяўленчымі матэрыяламі [39] і фотадакументамі [18]. Па-трэцяе, інтэнсіўны прагрэс міждысцыплінарных падыходаў, асабліва выкарыстанне матэматычных мадэляў і колькасных метадаў, дазволіў найбольш аптымальна і карэктна выкарыстоўваць масавыя тэматычныя дакументы (разнастайную дакументацыю ўліку — паліцэйскую, гарадскую, сельскую статыстыку). Гэта станоўча адбілася на распрацоўцы гісторыі рэпрэсій і палітыкі дэпартацыі [57; 59; 63]. Па-чацвёртае, усведамленне гісторыкамі навуковай важ-

насці першакрыніц стварыла неабходны імпульс для інтэнсіфікацыі аналізу калекцый і месц іх захоўвання [58; 76], выдання асобных дакументаў, зборнікаў [54; 65] і мемуараў [5; 29]. Аднак не напісана ніводнай фундаментальнай манаграфіі па гісторыі падзей 1863—1864 гг. на тэрыторыі Беларусі. У канцэптуальным плане цэнтральнае месца займаюць узніклыя ў 1990-х гг. нацыянальныя матывы, што звязана са станаўленнем незалежнай Рэспублікі Беларусь і пошукам яе самастойнага месца існавання на міжнароднай арэне. Адны з гісторыкаў (Г. Кісялёў, А. Каўка, Я. Запруднік, І. Запрудскі, А. Мяснікоў і інш.) акрэсліваюць сутнасць падзей як «беларускі нацыянальна-вызваленчы рух супраць царызму» [31; 32; 41; 42; 50]. Прадстаўнікі контрверсіі А. Гронскі [21], В. Чарапіца [74], А. Бендзін [7] схіляюцца пераважна да меркавання, што нацыянальная ідэя ў К. Каліноўскага «не выкрышталізавалася, не аформілася, хаця магчыма недзе зараджалася ў падсвядомасці» [38, с. 12]. Паміж адзначанымі аўтарамі на старонках перыядычных выданняў часта вядуцца дыскусіі [12; 33; 37]. Галоўная прычына наяўнасці такой сітуацыі зноў крыецца ў базе крыніц. Калі гісторыкі імкнуцца напісаць ідэалагічную платформу паўстання 1863—1864 гг., узровень рэпрэзентатыўнасці базы крыніц іх даследаванняў звужаецца да мемуараў, папярэдніх публікацый і інтэрпрытацыі «Мужыцкай праўды» згодна з асабістымі палітычнымі перакананнямі.

Польская гістарыяграфія заўсёды базіравалася ў асноўным на інфармацыйным патэнцыяле нацыянальных архіваў, дзе пераважна дамінуюць дакументы з тэрыторыі Польшчы. Да 1990-х гг. падзеі 1863—1864 гг. на беларуска-літоўскіх землях падаваліся польскімі гісторыкамі эпізадычна і ніколі не станавіліся асобным прадметам даследавання. Да вывучэння ваенных дзеянняў у Мінскім, Віленскім, Навагрудскім, Віцебскім і Магілёўскім паветах, а таксама на Гродзеншчыне звярнуўся С. Ланец. Ён жа закрануў удзел чыгуначнікаў з лініі Гродна-Парэчча [84—86]. Аўтар увёў у навуковы зварот дагэтуль невядомыя матэрыялы з фондаў чыгунак, прамысловых прадпрыемстваў і ахоўных дэпартаментаў, аднак тэрыторыя Літвы і Беларусі па-ранейшаму засталася для яго «паўночна-усходнімі крэсамі», а паўстанне 1863—1864 гг. — барацьбой за незалежнасць «польска-літоўскай дзяржавы па ўзору федэрацыі некалькі народаў» [86, с. 8] *(А. Ф. —мова арыгіналу польская)*. Фундаментальнай у крыніцазнаўчым і аналітычным накірунках з'яўляецца праца Д. Файнхаўза. Гісторык правёў комплексны аналіз сітуацыі 1861—1865 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі на велізарным аб'ёме дакументальных матэрыялаў з нацыянальных архіваў адзначаных краін. Ён прыйшоў да высновы, што індывідуальнасцю характару выпадкаў 1863 г. у беларуска-літоўскім рэгіёне было спалучэнне трох фактараў: «стасункі розных народнасцей, рэлігія і грамадства» [79, с. 7]. Праўда, такія працы адзінкавыя для польскай гістарыяграфіі. Створаная трывалая канцэптуальная традыцыя «польскага характару» паўстання 1863—1864 гг. працягвае дамінаваць і ў сучасных працах польскіх навукоўцаў. Тэрыторыя Беларусі і Літвы зноў застаецца па-за ўвагай. А калі яна і разглядаецца, то ў межах падзей польскага нацыянальна-вызваленчага руху [82].

Нягледзячы на высокую ступень палітызаванасці тэмы, адвечная прычына існавання полівызначэнняў сутнасці паўстання 1863—1864 гг. бачыцца ў асаблівасцях фарміравання корпусу крыніц на розных этапах. Зразумела, дакументальная база гістарыяграфіі падзей складвалася паступова — ад аднабаковага выкарыстання эмпірычных матэрыялаў да сістэмнага падыходу ў іх верыфікацыі. Гэты працэс суправаджалі шэраг аб'ектыўных (відавая разнастайнасць, даступнасць архіўных збораў, ступень іх захаванасці, узровень методыкі працы з архіўным матэрыялам, тэматычная накіраванасць даследаванняў) і суб'ектыўных фактараў (уплыў палітычнай кан'юнктуры і аўтарскіх перакананняў). Прычым нацыянальная прыналежнасць аўтара таксама ўплывала на выбар дакументаў па мове і характару паходжання (польскамоўныя — рускамоўныя, урадавыя — паўстанцкія).

У выніку агульны стан дакументальнага комплексу абумовіў фарміраванне чатырох галоўных гістарыяграфічных падыходаў у ацэнцы падзей 1863—1864 гг. на тэрыторыі Беларусі. У другой палове XIX — пачатку XX ст. у расійскіх дарэвалюцыйных публікацыях сфарміра-

ваўся першы падыход, у адпаведнасці з якім паўстанне 1863—1864 гг. — гэта «бунт польскіх паноў і ксяндзоў». Польскія даследчыкі ў той час характарызавалі 1863—1864 гг. як «нацыянальна-вызваленчую барацьбу польскага народа». І хаця ўвага акцэнтавалася на нацыянальна-палітычным аспекце праблемы, сутнасныя размежаванні вынікалі з монапрадстаўнічасці выкарыстаных дакументаў і тэрытарыяльных прэтэнзій апанентаў на беларускія землі (у якасці спрадвечна рускіх ці спрадвечна польскіх), што з аднаго боку стварала вобраз «незаконнай барацьбы», з другога — «справядліва-натуральнай». Падобны пункт погляду прысутнічае і ў сучасных расійскіх і польскіх выданнях.

Савецкая навука (1920—1980-я гг.) з яе класавым падыходам аналізу гістарычных з'яў надавала прыярытэт сацыяльна-эканамічным пытанням. Таму падбор дакументальнага матэрыялу (яго характару) суадносіўся з пастулатамі марксісцка-ленінскай метадалогіі і паўстанне 1863—1864 гг. разглядалася як «класавая барацьба сялян супраць паноў». Якаснае назапашванне базы крыніц у 1960-я гг., увядзенне ў навуковы зварот у 1970—1980-я гг. уліковай дакументацыі абумовілі змены канцэптуальнага падыходу да ацэнкі сутнасці паўстання, якія падкрэслілі яго «рэвалюцыйна-дэмакратычны характар». З кантэксту вышэй адзначанай канцэпцыі выпалі 1920-я гг., калі беларускія навукоўцы асобным прадметам даследаванняў пазначылі тэрыторыю Беларусі і звярнуліся да апрацоўкі базы крыніц па рэгіянальнаму напрамку, што стварыла падставы для вылучэння самастойных рысаў падзей 1863—1864 гг. у беларуска-літоўскіх губернях і трактоўкі іх як «беларускага нацыянальнага руху».

У сучаснай беларускай гістарычнай думцы ў канцэптуальным плане распрацоўкі праблемы прынцыпова новых акцэнтаў фактычна не прыўнесена. Дамінуючае становішча займаюць з некаторымі варыяцыямі дзве дыяметральна супрацьлеглыя канцэпцыі: а) канцэпцыя «польскага дваранска-клерыкальнага бунту»; б) канцэпцыя «беларускага нацыянальнага руху». Такая гетэрагеннасць зыніцыявана вызначальнай ролю крыніц, прынцыпамі іх адбору і аналізам, што яшчэ раз даказвае вострую неабходнасць толькі навукова-абгрунтаванага «пошуку ісціны» ў рэканструкцыі паўстання 1863—1864 гг. Інакш тэма павісне на гістарычных вагах, будзе залежыць ад подыху ветру жыццёвых рэалій і застанецца «белай плямай» у гісторыі Беларусі.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ СПАСЫЛКІ

1. 1863 г. на Міншчыне (Материалы отдела III отделения собственной Его Императорского Величества канцелярии) / Инбелкульт. Польский отдел. Историческая комиссия: собрали и обработали Я. Витковский, О. Яневич, Л. Лех. Вып. 1. Минск : Инбелкульт, 1927. 216 с.

2. 1863 г. Собрание статей по польскому вопросу, помещавшихся в «Московских ведомостях», «Русском вестнике» и «Современном летописе» / сост. М. Н. Катков. Вып. 1. М. : Университетская типография на Страстном бульваре, 1887. 662 с.

3. *Агурский С. Х.* Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863—1917). Минск : Белорус. гос. издательство, 1928. 348 с.

4. *Акинчиц И. И.* Униатство и восстание // Паўстанне 1863 г. і яго гістарычнае значэнне: матэрыялы міжнарод. навук. канф., Брэст, 10—11 кастрычніка 2003 г. / Брэсцкі ДУ імя Пушкіна; рэд. рада М. Э. Часноўскі [і інш.]. Брэст, 2004. С. 125—126.

5. *Арамовіч А.* Мары. Успаміны аб партызанскім руху ў Гарадзенскім ваяводзтве ў 1863 і 1864 г. // ARCHE. 2010. № 12. С. 18—71.

6. *Байкова С. М.* О движущих силах восстания 1863 г. на территории Белоруссии // Историко-социологические исследования (на материалах славянских стран). М. : Наука, 1970. С. 22—253.

7. *Бендин А. Ю.* Граф М. Н. Муравьев Виленский и национальное пробуждение белорусского народа в 60-е гг. XIX в. // Исторический поиск Беларуси / сост. А. Ю. Бендин. Минск : Эконопресс, 2006. С. 53—77.

8. *Берг Н. В.* Записки Н. В. Берга о польских заговорах, 1831—1862. М. : Изд-во «Русского архива», 1873. 382 с.

9. *Бикулич В. Б.* О русско-польско-литовско-белорусских революционных связях периода восстания 1863—1864 гг. (Материалы ЦГИА Лит. ССР) // Революционная ситуация в России 1859—1861 гг. / под ред. М. В. Нечкиной. М. : Наука, 1965. С. 301—313.

10. *Богданов Г. В.* Алфавитный список участников революционного движения в русской армии за 1861—1863 гг. // Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х гг.: сборник статей и материалов; под ред. В. Д. Королюка. М. : АН СССР, 1960. С. 489—638.

11. *Брянцев П. Д.* Польский мятеж 1863 г. Вильно: типография А. Г. Сыркина, 1892. 263 с.

12. *Вашкевич А.* За что боролся Калиновский? // Деды. Дайджест публикаций по беларуской истории. 2011. Вып. 6. С. 299—304.

13. Виленский временник / основатель и редактор А. Н. Харузин. Кн. 6: Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию в пределах Северо-Западного края: в 2 ч. / сост.: А. И. Миловидов. Вильна : Губернская типография, 1913—1915. Ч. 1: Переписка по политическим делам гражданского управления с 1 января 1862 г. по май 1863 г. Вильна : Губернская типография, 1913. 464 с.

14. Виленский временник / основатель и редактор А. Н. Харузин. Кн. 6: Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию в пределах Северо-Западного края: в 2 ч. / сост.: А. И. Миловидов. Вильна : Губернская типография, 1913—1915. Ч. 2: Переписка по военным действиям с 10 января 1863 г. по 7 января 1864 г., 1915. 466 с.

15. *Віткоўскі Я.* Паўстаньне 1863 году і расійскі рэвалюцыйны рух пачатку 1860 гадоў (Спроба параўнаньня праграм і дзейнасьці паводле падпольных выданьняў). Кн. 3. Мінск : Беларус. АН, Польскі сектар, 1931. 169 с.

16. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии: сборник документов / редкол: В. Дьяков, В. Жиголов, Ю. Жюгжда. М. : Наука, 1965. 586 с.

17. *Гарбачова В. В., Антановіч З. В.* Лёсы святароў Магілёўскай і Мінскай рымска-каталіцкіх дыяцэзій пасля паўстання 1863—1864 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 2010. № 1. С. 23—28.

18. *Гарбачова В.* Паўстанцы на фотаздымках // ARCHE. 2010. № 12. С. 99—132.

19. *Граф М. Н.* Муравьев как деятель над укреплением прав русской народности в Гродненской губернии. 1831—1835 и 1863—1865 / сост. Е. Орловский. Гродно : Губернская типография, 1898. 31 с.

20. Граф Михаил Николаевич Муравьев. Записки его об управлении Северо-Западным краем и об усмирении в нем мятежа, 1863—1866 гг. СПб. 46 с.

21. *Гронский А.* Кастусь Калиновский: конструирование героя // Беларуская думка. 2008. № 2. С. 82—87.

22. *Грыгор'ева В.* Взаимоотношение двух христианских конфессий на Беларуси: взгляд на проблему через восстание 1863 г. // Тэзісы навук. канф., прысвеч. 1000-годдзю Полацкай епархіі і праваслаўнай царквы на Беларусі, Мінск, 25 верасня 1992 г. / Беларуская праваслаўная царква; адказны за выпуск А. Петрашкевіч. Мінск, 1992. С. 57—58.

23. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі: у 4 т., 1936—1954. Т. 2: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772—1903) / пад рэд. Н. М. Нікольскага [і інш.]. Мінск : Выд-ва АН БССР, 1940. 938 с.

24. *Драздоў С.* З рэвалюцыйнай дзейнасці Кастуся Каліноўскага на Гродзеншчыне // Нёман. 1958. № 2. С. 174—182.

25. *Драницын С. Н.* Польское восстание 1863 г. и его классовая сущность. Л. : СОЦЭКГИЗ, 1937. 362 с.

26. *Дьяков В. А.* Революционное движение в русской армии и восстание 1863 г. М. : Наука, 1964. 447 с.

27. *Жукоўскі А.* Герцэн і «Мужыцкая праўда» // Беларусь. 1956. № 9. С. 29.

28. *Зайцев В. М.* Социальный состав участников восстания 1863 г. (опыт статистического анализа). М. : Наука, 1973. 230 с.

29. *Залескі Б. Ф.* З жыцця літвінкі. Мінск : выдавецтва Віктара Хурсіка, 2009. 338 с.

30. Запаветы сакавіка...І запаветы Каліноўскага // Беларус. 1964. № 84. С. 2.

31. *Запруднік Я.* Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск : Бел. Фонд Сораса : ВЦ «Бацькаўшчына», 1996. 326 с.

32. *Запрудскі І.* Беларускі сіндром і асоба К. Каліноўскага // Полымя. 2008. № 2. С. 133—135.

33. *Запрудскі І.* Сшальмаваны Кастусь Каліноўскі. Тэхналогіі астракізму // Пачуць, як лёсу валяцца муры: памяці Г. Кісялёва / уклад. Л. Кісялёва, А. Фядута; пад навуков. рэд. А. В. Мальдзіса. Мінск : Лімарыус, 2009. С. 338—354.

34. *Игнатович Ф. И.* Медицинское и лекарственное обеспечение участников восстания 1863 г. в Северо-Западном регионе Беларуси // Мінулае Гродзеншчыны: навук.-метад. дапаможнік для настаўнікаў гісторыі і геаграфіі; пад рэд. В. В. Шведа. Вып. 10. Гродна : упраўленне адукацыі Гродзенскага аблвыканкама, 2004. С. 13—21.

35. *Ігнатоўскі У.* 1863 год на Беларусі. Нарыс падзей // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы Інстытуту гістарычных навук. Мінск : Бел. АН, 1930. 274 с.

36. *Ігнатоўскі У.* Вынікненьне і зьмены організацыі цэнтраў паўстаньня 1863 года на Беларусі // Полымя. 1927. № 3. С. 183—198.

37. *Казбярук У.* Загадка Каліноўскага // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5. С. 32—36.

38. *Казбярук У.* Міфы і міражы // Літаратура і мастацтва. 1990. 7 снежня. С. 12.

39. *Казлоў Л. Р.* Картаграфія Беларусі падчас паўстання 1863—1864 гг. Мінск, 2003. 16 с.

40. *Карпович О. В.* Население Могилева и Могилевского уезда в восстании 1863 г. // Гістарычнае і сацыяльна-культурнае развіццё Магілёва: зборнік навуковых прац удзельнікаў V Міжнар. навук. канф. «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснае» / уклад. А. А. Пушкін, В. В. Юдзін. Магілёў : Тыпаграфія ім. С. Собаля, 2007. С. 62—65.

41. *Каўка А.* Беларускі вызваленчы рух. Спроба аналізу // Спадчына. 1991. № 5. С. 6—10.

42. *Кісялёў Г. В.* Сейбіты вечнага. Артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў рэвалюцыйнага руху 1863 г. Мінск : Медысонт, 2009. 542 с.

43. *Кісялёў Г.* Старонкі вялікага жыцця // Полымя. 1963. № 1. С. 127—140.

44. *Ковальский Н.* Русская революционная демократия и январское восстание 1863 г. в Польше. М. : Изд-во иностранной литературы, 1953. 314 с.

45. *Лазутка С. А.* Революционная ситуация в 1859—1862 гг. в Литве // Революционная ситуация в России 1859—1861 гг. / под ред. М. В. Нечкиной. М. : Наука, 1960. С. 480—500.

46. *Лушчыцкі І.* Соцыяльна-палітычныя погляды Кастуся Каліноўскага // Полымя. 1949. № 8. С. 123—133.

47. *Лясковский А. И.* Литва и Белоруссия в восстании 1863 года. Берлин : Арзамас, 1939. 189 с.

48. *Миловидов А.* Заслуги графа Н. М. Муравьева для православной церкви в Северо-Западном крае. Харьков : Типография губернского правления, 1900. 92 с.

49. *Миловидов А. И.* Меры, принятые к ограждению православного населения от латино-польской пропаганды в Северо-Западном крае (Оттиск из Виленского календаря). Вильна : Типография Вил. прав. Св.-Духовского братства, 1900. 35 с.

50. *Мяснікоў А.* І ўсё ж ён герой // Беларуская думка. 2008. № 11. С. 104—110.

51. Общественно-политическое движение на Украине 1863—1864 гг.: сб. док.; редкол. В. Королюк [и др.]. Киев : Наукова думка, 1964. 551 с.

52. Переписка наместников королевства Польского в 1861 г. / под ред. С. Кеневича. Вроцлав, Краков : Изд-во ПАН, 1964. 546 с.

53. *Перцаў У.* Кастусь Каліноўскі // Полымя. 1945. № 9. С. 138—162.

54. Повстанческое движение в Гродненской губернии 1863—1864 гг.: сб. док. / сост. Т. Ю. Афанасьев [и др.]; под ред. Д. В. Карева. Брест : Академия, 2006. 404 с.

55. Показания и записки о польском восстании 1863 г. Оскар Авейде. М. : АН СССР, 1964. 663 с.

56. *Пороховщиков А. А.* Подвиг Муравьева — настольная книга правителям и правительствам. СПб. : Паровая типография А. Пороховщикова, 1898. 50 с.

57. *Проценко О. Э.* Восстание 1863 года и политика депортации // Паўстанне 1863 г. і яго гістарычнае значэнне: матэрыялы міжнар. навук. канф., Брэст, 10—11 кастрычніка 2003 г. / Брэсцкі ДУ імя А. С. Пушкіна; рэд. рада М. Э. Часноўскі [і інш.]. Брэст, 2004. С. 86—89.

58. *Радзюк А. Р.* Фонды ваенна-павятовых начальнікаў як крыніца па гісторыі развіцця і падаўлення нацыянальна-вызваленчага руху падчас паўстання 1863—1864 гг. (па матэрыялах Гродзенскай губерні) // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і артыкулаў. Вып. 8. Мінск : НГАБ, 2010. С. 177—182.

59. *Радзюк А.* Рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў 1863—1864 гг. // ARCHE. 2010. № 12. С. 133—150.

60. *Ратч В.* Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной Росии: в 2 т. Т. 1: Введение. Вильна : Типография губернского правления, 1867. 260 с.

61. Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг.: сб. док.; редкол.: В. Дьяков, В. Жиголов. М. : Наука, 1960. 705 с.

62. Русско-польские революционные связи: сборник документов в 2 т.; редкол.: В. Дьяков (отв. ред.) [и др.]. М. : АН СССР, 1963. Т. 1. 583 с.; Т. 2. 793 с.

63. *Серак Е. В.* Из истории репрессий участников восстания 1863—1864 гг. в Беларуси: нормативно-правовые документы и практика их реализации (по материалам НАРБ) // Беларускі археаграфічны штогоднік. 2007. № 8. С. 118—126.

64. *Сидоров А. А.* Польское восстание 1863 г. Исторический очерк. СПб. : Издание Н. П. Карбасникова, 1903. 256 с.

65. *Смалянчук А. К.* Каліноўскі ў лістах Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай // Пачуць, як лёсу валяцца муры: памяці Г. Кісялёва / укладальнікі Л. Кісялёва, А. Фядута; пад навуков. рэд. А. В. Мальдзіса. Мінск : Лімарыус, 2009. С. 328—337.

66. *Смирнов А.* Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. М. : АН СССР, 1963. 381 с.

67. *Смирнов А.* Константин Калиновский — борец и мыслитель // Вопросы философии. 1951. № 2. С. 105—113.

68. *Смирнов А.* Константин Калиновский. Минск : Из-во АН БССР, 1950. 26 с.

69. *Станкевіч А. Д.* Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення. Вільня : Шляху моладзі, 1934. 128 с.

70. *Турук Ф.* Белорусское движение. Очерк национального и революционного движения белорусов. М. : Под/отдела Инвалидов, 1921. 129 с.

71. *Фалькович С. М.* Идейно-политическая борьба в политическом освободительном движении 50—60-х гг. 19 в. М. : Наука, 1966. 334 с.

72. *Хурсік В. У.* Трагедыя белай гвардыі. Беларускія дваране ў паўстанні 1863—1864 гг.: гістарычны нарыс і спісы. Мінск : Пейто, 2001. 132 с.

73. *Цьвікевіч Ів.* Кастусь Каліноўскі (К 60-ці годдзю яго смерці). Біяграфічна-гістарычны нарыс // Полымя. 1924. № 2. С. 3—18.

74. *Чарапіца В.* Кошт мужыцкай крыві, або Спрэчкі вакол К. Каліноўскага: учора і сёння // Беларуская ніва. 2001. 7—8 жніўня. С. 4.

75. *Шалькевич В. Ф.* Кастусь Калиновский: страницы биографии. Минск : Университетское, 1988. 127 с.

76. *Шумейка М.* Як захоўвалі дакументальную спадчыну Мураўёва-вешальніка // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 1. С. 8—11.

77. *Шумейко М. Ф.* Из истории подготовки международных археографических публикаций (Методические рекомендации по археографической обработке документов серии сборников «Восстание 1863 г.») // Беларускі археаграфічны штогоднік. 2010. № 11. С. 270—288.

78. *Dubiecki M.* Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania Styczniowego 1863—1864. Kraków : G. Gebethner, 1907. 216 s.

79. *Fajnhauz D.* 1863: Litwa i Białoruś. Warszawa : Neriton, 1999. 357 s.

80. *Gederbaum H.* Powstanie styczniowe. Warszawa : Ebethner i Wolff, 1917. 439 s.

81. *Giller Ŕ.* Historja Powstania Narodu Polskiego w 1861—1864 r.: w 4 t., 1867—1871. T. 2: Historja Powstania Narodu Polskiego w 1861—1864 r. Paryż : Księgarnia Luxemburgska Ulica de Tournon, 16, 1867. 370 s.

82. *Kieniewicz S.* Trzy powstania narodowe. Warszawa : Książka i wiedzŕ, 2006. 428 s.

83. *Limonowski B.* Historya powstania narodu polskiego 1863 i 1864. 2-e wyd. Lwów : Nak. Wyd-wo Polskiego, 1880. 518 s.

84. *Łaniec S.* Kolej petersbursko-warszawski w powstaniu styczniowym. Olsztyn : Uniwersytet Warmińsko-Mazurski, 2004. 140 s.

85. *Łaniec S.* Partyzanci kresów północno-wschodnich w powstaniu styczniowym. Torun : Top Kurier, 1996. 110 s.

86. *Łaniec S.* Walki partyzanckie na Grodzieńszczyźnie i wyprawa Zygmunta Sierakowskogo na Żmudź. Olsztyn : Un-t Warmińsko-Mazurski, 2004. 53 s.

87. *Przyborowski W.* Dzieje 1863 roku. Przez autora «Historyi dwóch lat»: w 3 t., 1897—1902. T. 2: Dzieje 1863 roku. Przez autora «Historyi dwóch lat». Kraków : Nakład i druk W. L. Anczyca i spółki, 1899. 512 s.

Статья поступила в редакцию 15 июня 2012 г.